праРОК

*КАСЯ КАМОЦКАЯ:*

# "Я НЕ МАГУ СКАЗАЦЬ, ШТО ЛЮБЛЮ БЕЛАРУСКІ НАРОД"

**Рок-гурт "НОВАЕ НЕБА" быў створаны ў 1991 годзе. Пачатковы склад гурту: Кася Камоцкая, вакал, акустычная гітара; Лёнік Шырын, гітара, вакал; Лявон Вольскі, клявішы, вакал; Юрась Ляўкоў, бас; Юля Глушыцкая, віялянчэль; Алена Вішнеўская, скрыпка; Алег Дземідовіч, бубны. З таго часу склад неаднаразова зьмяняўся, але гітарыст, клявішнік і басыст засталіся тыя ж. "НН" выступала на розных фэстывалях на Беларусі й па за ейнымі межамі. Напрыклад, на буйнейшым у Эўропе фэстывалі "Роскільд-93". "НН" -- запісала некалькі магнітаальбомаў. Зараз працуе над чарговым запісам.**

Касю Камоцкую, вакалістку "Новага неба", знайсьці няцяжка. Калі яна не выступае на рок-канцэрце (якіх ня так ужо й шмат у беларускіх гуртоў), калі яна ня ў студыі на запісу сваіх песень, значыцца яна там, дзе так любяць бавіць час менскія музыкі: альбо на ўзьбярэжжы Сьвіслачы каля Траецкага прадмесьця, альбо на "Хольштэне", што на пляцы Перамогі. Але, калі вы абыйшлі ўсе вышэй згаданыя кропкі й так і не знайшлі небезьвядомую Касечку, ды па дарозе напаткалі Лявона Вольскага, вакаліста "Мроі" ці Зьміцера Лукашука, тэкставіка "Крамы", дастаткова прасачыць за імі, бо яны на 99 адсоткаў сьпяшаюцца на сустрэчу з Камоцкай. Праўда, калі ў вас сур"ёзная размова, ці вы хочаце ўзяць інтэрвію, раю рабіць гэта як мага раней, бо бліжэй да надыходу цемры ў вас наўрад ці атрымаецца зьвязная й прыстойная гутарка.

Пасьля трэйцяе ці чацьвертае спробы я ўсё ж падгадаў належны час, што вы, я спадзяюся, адчуеце ў гэтым інтэрвію. Сустрэча адбылася на беразе Сьвіслачы пры тэмпэратуры каля 40°. Мы не размаўлялі пра канкрэтныя песьні ды альбомы. Размова атрымалася больш агульная, нават ,я б сказаў, філязофская. Што й нядзіўна, бо Касечка скончыла гістарычны факультэт Белдзяржунівэрсытэта й добра ведае марксысцка-ленінскую філязофію.

-- Як вы ўбіліся ў гэтую справу, у гэты рок-н-рол?

-- Выпадкова. Гэта не залежала ад мяне. Такі быў зьбег абставінаў.

-- Дык што, лёс ад чалавека не залежыць?

-- Хіба вы нешта рабілі ў сваім жыцьці мэтанакіравана? Лёс -- гэта выпадковасьці, якія герайтвараюцца ў заканамернасьць. Напрыклад, вы выпадкова зайшлі ва ўнівэрсытэт, выпадкова паступілі на журфак... А маглі б не паступіць у гэтым годзе, і ўсё склалася б па-іншаму.

-- Вы хочаце сказаць, што кожную песьню ствараеце выпадкова?

-- Безумоўна. Можа быць "выпадкова" -- ня тое слова, але я ня ведаю, якою гэтая песьня мусіць быць.

-- У вас песьні чым-небудзь аб"яднаныя, напрыклад, стылёва?

-- Так. Мною. Гэта я. Гэта мае выпадковасьці, а не выпадковасьці Ангуса, напрыклад (Ангус -- Андрэй Піпка -- вакаліст трэш-гурту "Тарнада").

-- Значыцца, вашая творчасьць інтуітыўная?

-- Любая творчасьць інтуітыўная.

-- Дык што такое вашая музыка -- авангард, ці як гэта можна назваць ?

-- Зноў з гэтымі вызначэньнямі... Гэта самае цяжкае для мяне пытаньне.

-- Вы ня хочаце вызначыць стыль, у якім працуеце?

-- Я не магу сказаць, што не хачу, проста я недасьведчаная ў гэтай галіне.

-- Але гэта не рок-н-рольная музыка?

-- Я думаю, гэта не рок-н-рол. Бо цяпер пад рок-н-ролам разумеюць акрэсьлены рытм, пэўную спрошчанасьць і нават агрэсіўнасьць.

-- Дык вы ж заўжды бярэце ўдзел у рок-н-рольных канцэртах.

-- Мінуў час, калі розныя напрамкі існавалі паасобку. Ёсьць у сьвеце, натуральна, фэстывалі чыста рытм-энд-блюзавыя ці трэшавыя, але камандаў з голым накірункам засталося вельмі мала. Сучасныя каманды карыстаюцца рознымі стылямі. Гэта больш цікава й больш складана.

-- У вашай музыцы ёсьць сувязь з былымі беларускімі музычнымі традыцыямі?

-- Ёсьць. Ёсьць песьні, якія ўвогуле ледзь ня сьпісаныя з народных. Так адбываецца, калі чытаеш верш, і ён адгукаецца падобнымі мэлёдыямі. Напрыклад, "Залатыя краты" цалкам зробленыя па асацыяцыі з народнай песьняй.

-- Чым тлумачыцца тое, што на большасьці праграмных штогадовых канцэртаў -- "Рок па вакацыях", "Рок супраць рэвалюцыяў", "Рок за незалежнасьць" -- выступаюць адны й тыя ж беларускамоўныя гурты, за выключэньнем, праўда, пары англамоўных? Рускамоўным каляктывам гэта ня вельмі даспадобы.

-- Мне таксама не падабаецца малая колькасьць беларускамоўных гуртоў. Шчыра сказаць, я ня бачу нармальных рускамоўных гуртоў, што ўзьніклі апошнім часам. Напэўна, тыя людзі, што йшлі за намі, набылі іншае бачаньне сьвету, ставяць іншыя мэты перад сабою. І тая самаахвярнасьць, на якую йшлі мы, тут будзе выглядаць проста сьмешнаю.

-- Дык чаму рускамоўныя гурты ня ўдзельнічаюць у праграмных канцэртах?

-- Вы хочаце сказаць, што мы рускіх не пускаем? У прынцыпе, рускія й гэтак праб"юцца.

-- Вы гэта гаворыце ў зьвязку з сёньняшняй палітычнай сытуацыяй?

-- Так. Калі ты аддаеш дзіцёнка ў беларускамоўную школу, пытаюцца: чаму? Таму што расейскую мову ён усё адно вывучыць. Зь беларускай мовай па-іншаму. Таму тут даводзіцца змагацца сілавымі мэтадамі. Напрыклад, не пускаючы рускамоўныя гурты ў нашую абойму. А па-другое, я ня бачу расейскіх гуртоў належнага ўзроўню, якія маглі б удзельнічаць у нашых канцэртах. Я рэдка бываю на йхніх выступах, а калі бываю... сум агортвае маю душу. Так што тут усё тлумачыцца нашай сьвядомай нацыянальнай палітыкай , як арганізатараў канцэрту й недастатковым узроўнем рускамоўных гуртоў. Вось у англамоўных гуртоў узровень нармальны. З "Тарнадай", "Уай нотам" праблемаў не йсьне, вядома, калі мерапрыемства ня чыста беларускае. У гэтай сытуацыі да беларускамоўных гуртоў бліжэй англамоўныя. І мы мусім праводзіць гэткую, я б сказала, культуртрэгэрскую лінію.

-- А вам не даводзіцца акрамя музыкі займацца палітыкай?

-- Я ня лезу ў палітыку. Яна сама да мяне лезе.

-- Дык як гэта зьвязваецца -- творчасьць ды вашыя палітычныя дзеяньні, напрыклад, як вы гаворыце, культуртрэгэрства?

-- Ва ўсім сьвеце людзі, для якіх рок-н-рол ня проста музычны стыль, а лад жыцьця, зьвязваюць сябе з палітычнымі ці экалягічнымі рухамі. А ў нашай краіне такая сытуацыя, што, калі будзеш маўчаць цяпер, дык праз пару гадоў ня зможаш нават слова сказаць, ня тое што песьню сьпець.

-- Вы заўсёды сьпявалі на вершы адносна маладых беларускіх паэтаў -- Глёбуса, Сыса, Бабкова, Сапач. Як гэтыя паэты ставіліся да таго, што вы скарачаеце іхнія вершы ўдвая, зьмяняеце словы, якія вам не падабаюцца?

-- Яны заўсёды былі згодныя. Ніводнага разу ніхто ня быў супраць. Бо разумелі, што тэкст і верш -- розныя рэчы. Тое, што будзе добра ў вершы, не заўжды добра ў песьні.

-- І ўсе яны па-ранейшаму пішуць для вас?

-- Нажаль, Глёбус ужо ня піша вершы. Таня Сапач жыве за мяжою. Сыс, можа, што й піша ў Гарошкаве, але ён як пайшоў туды ў эміграцыю, дык забыўся вярнуцца.

-- Як вы ацэньваеце ступень сваёй папулярнасьці на Беларусі?

-- Шырокавядомая ў вузкіх колах.

-- А вам бы хацелася, каб папулярнасьць расла?

-- Я думаю, што, каб чалавек не хацеў папулярнасьці, ён бы не выходзіў на сцэну. Я б хацела, каб цераз мае песьні людзі зразумелі, што жыцьцё шматплыннае, шматзначнае, паглядзелі на звыклыя рэчы зь іншага, нязвыклага боку... Дзеля гэтага трэба, каб мае песьні мелі папулярнасьць.

-- А асабіста вам навошта яна?

-- Калі выходзіш на сцэну, калі пяеш, дык атрымліваеш ня меньш, чым аддаеш у залю.

-- Значыцца, вы лічыце, што гэта ня "цяжкая, непасільная праца", а аздараўленчы працэс?

-- Пры нармальнай зале гэта працэс раўназначнага абмену.

-- Ці надоўга хопіць вашае каманды?

-- Для кожнага з нас гэта ўжо стыль жыцьця. І калі хто стоміцца, дык хіба ад старасьці. Ці паганага здароўя. А так ні ў кога не ўзьнікае жаданьня ўсё кінуць ды кудысьці зваліць. Напрыклад, у бізнэс...

Час хіліўся да вечара. Да ўзьбярэжжа Сьвіслачы пачалі падцягвацца музыканьцікі зь іншых гуртоў ды проста аматары адпачынку на сьвежым паветры й сьпіртусовых напояў рознага мацунку й гатунку. Перад намі таксама паўстала гэткае пытаньне. А пакуль "ганец" лётаў у краму, тэмат інтэрвію незаўважна зьмянíўся...

-- Музыканьцікі, я чуў, любяць зрэдку гарэлачкі папіць...

-- Дык хто ж гэтага ня любіць!

-- Ужываньне моцных напояў дапамагае вам у творчай працы?

-- Не, да творчасьці гэта ня мае ніякага дачыненьня.

-- А што гэта? Можа, разгрузка?

-- Гэта разгрузка мэтадам загрузкі. А пашчырасьці -- гэта калісьці вясёлая кампанія, калісьці -- разгрузка пасьля цяжкага канцэрту, калісьці -- нежаданьне бачыць таго, што робіцца наўкол. Увогуле, калі зірнуць на гэта з гістарычнага пункту гледжаньня, дык, напэўна, гэта традыцыйная для гэтае зямлі й гэтага народу форма адпачынку.

-- Дык што, пасьля канцэрту беларускага року ўсе, хто быў на сцэне, зьбіраюцца й адпачываюць гэткім чынам?

-- Як калі. Бывае, што абыходзяцца й без адпачынку.

-- Ходзяць чуткі, што ня толькі гарэлка йдзе ў ход, а розныя наркатычныя рэчывы... Як у вас з гэтым, няма праблемаў?

-- Няма.

-- У вашым асяродку наркотыкі ўжываюцца?

-- Для чаго бяруцца гэтыя зьвесткі? Артыкул за захаваньне адмянілі?

-- Не. Артыкул ёсьць.

-- Ну, дык гэткія некарэктныя пытаньні задаваць нельга.

-- Чаму беларускія гурты ўсе такія нескандальныя?

-- Таму што ў нас скандаль не скандаль, пра гэта ніхто не даведаецца.

-- Значыцца, калі вы сьпяеце калыханку ля новага дому прэзыдэнта, пра гэта ніхто не даведаецца?

-- Я думаю, не. Нашыя сродкі масавае інфармацыі пляваць хацелі на рок-н-рол.

-- Паводле маіх зьвестак, пасьля "Басовішча", у зьвязз з цяперашнім палітычным становішчам на Беларусі, вы зьбіраліся застацца ў эміграцыі. Чаму ж тады вярнуліся?

-- Гэта зьвязана з маёй інэртнасьцю як асобы. Я не магу сказаць, што вельмі люблю зьмены.

-- А я думаў, што вы ня здолелі пакінуць свой родны кут, свой народ...

-- Пасьля выбараў першага прэзыдэнта я не магу сказаць, што люблю беларускі народ.



*Кастусь ЗЬМІЦЯРЭЦ, адмыслова для "БМ"*

# Жыццё ў стылі "БМ"

## "Святкуем Спас"

14 жніўня -- першы Спас, або Макавей, Макаўе. У падцверджанне апошняй назвы на Віцебшчыне кожнай гаспадыні трэба было прыгатаваць хоць бы адну страву, якую можна мачаць -- бліны, сачні з пражанінай ці з селядцовай жыжкай, пчаляры здабывалі мёд, каб мачаць у яго агуркі і хлеб. На Макавея падкопвалі маладую бульбу, і па ёй меркавалі пра будучы ўраджай; пачынаў паспяваць мак, шпакі і гракі збіраліся ў агароды.

У жніўні, але пераважна на Спасаўку, павінна прайсці так званая Рабінавая ці Вераб'ная ноч. На працягу яе грымоты скаланаюць неба, грозна бліскаюць маланкі, лье праліўны дождж, дзьме вецер. Згодна з народнымі павер'ямі, ў гэту ноч з пекла на свет выходзяць усе злыя сілы, якія нібыта спраўляюць сваё галоўнае гадавое свята і страшаць хрышчоных людзей. Паводле іншых меркаванняў, у гэту ноч усе сілы прыроды яднаюцца, каб знішчыць "нячыстую сілу", што распладзілася пасля Купалля і шкодзіла людзям.

...Лічылі, што неспакойная ноч патрэбна для выспявання ягад на рабіне. Калі ж ягады не спелі, чакалі благога заканчэння лета і халоднай восені.

***(Васілевіч У.А. "Беларускі народны каляндар". Мн. Ураджай, 1993)***

## Калі нельга гаварыць мовай радыёперадач, можна гаварыць мовай кветак

Мова кветак нарадзілася на Усходзе. Яе стварылі жанчыны. Пазбаўленыя магчымасці бываць на людзях, яны пераносілі на кветкі ўсе адценні свайго настрою, пачуццяў... Узнікшыя аднойчы асацыяцыі паступова ператвараліся ў трывалыя сімвалы, дзякуючы якім можна было весці размову. З'явіўся нават спецыяльны слоўнік, які ўтрымліваў неабходныя тлумачэнні. Так, напрыклад, азалія азначала сум, выклiканы адзінотай, колькасць бутонаў гіяцынта -- дзень сустрэчы, колькасць званочкаў --гадзіну спаткання.

У XIV стагоддзі мова кветак пранікае ў Францыю, затым у Англію і распаўсюджваецца па ўсёй Еўропе. Львіны зеў сімвалізуе славу, валошкі -- давер, маргарыткі -- згоду, ландышы і бэз -- аднаўленне, лілея -- чысціню, галінка алеандра гаворыць: "Я зачараваны табой". Жоўтая ружа пытаецца: "Ці сапраўднае каханне?" Галінка куста ружы адказвае: "Не". А адзін лісток: "Так".

У звяз з гэтым замест адкрытага ліста супрацоўнікі "БМ" накіроўваюць прэзідэнту жоўтую ружу. І спадзяюцца атрымаць у адказ адзін лісток ружы. Адзінадзінюткі.

## Не здолеўшы перамагчы Сістэму, палюем на камароў і мух

Вядома, колькі непрыемнасцяў у лесе, на дачы а часам і ў кватэры ад камароў. Як змагацца з імі?

Камары не пераносяць паху гваздзікоў. А таму, каб засцерагчыся ад іх, пратрыце ватным тампонам, змочаным у адэкалоне "Гвоздика" твар, рукі, шыю і ногі.

Палохае камароў така сама пах анісавага масла і нафталіна.

Каб выгнаць камароў з пакоя, насыпце на гарачую патэльню крыху камфары.

Свярбенне, прыпухласць ад укусу камара, пчалы, асы паменшыцца, калі змазаць скуру календулай (свежым сокам або аптэчным растворам), сокам цыбулі, падарожніка, свежых лісцяў пятрушкі.

Свярбенне ад камарыных укусаў знікае таксама, калі скарыстаць лімонны сок, сталовы воцат, нашатырны спірт, раствор пітной соды (палову чайнай лыжкі на шклянку вады).

Галоўная ўмова поспеху ў барацьбе з мухамі -- чысціня. Каб прадухіліць магчымасць з'яўлення мух, харчовыя прадукты трымайце закрытымі, харчовыя адыходы і смецце збірайце ў вёдры з накрыўкамі.

Мухі баяцца скразняку, таму часцей праветрывайце памяшканне.

Каб мухі не ляцелі ў вокны, змазвайце рамы воцатам.

## Пір падчас чумы?

### САЛАТА "КАПРЫЗ".

У салатніцу пакласці радамі адвараную бульбу, цыбулю, рубленыя яйкі, свежыя агуркі, затым нарэзаныя кавалачкамі яблыкі, насыпаць невысокай горкай вішні без костачак. Зрабіць нажом вузкія адтуліны ў салаце, заліць смятанай і паставіць на холад на 3-4 гадзіны. Салата "Капрыз" гатовая. Падаваць кавалачкамі, як торт. Вельмі смачна!

### СУП ВЕГЕТАРЫЯНСКІ.

У 1 літр вады пакласці нарэзаны плаўлены сырок альбо столькі ж цёртага сыру. Паставіць на моцны агонь. Нарэзаць 4 бульбіны і 1 моркву. Пакласці іх у булён. Варыць 5-7 хвілін. Прыгатаваць запраўку: спасераваць галоўку цыбулі, 2 морквы і салёны агурок (усё пацёртае на тарцы). Пакласці ў каструлю, дадаць перац, лаўровы ліст, зеляніну, палову сталовай лыжкі аўсяных хлоп'яў. Пракіпяціць усё 3 хвіліны -- і суп гатовы. Перад ежай заправіць смятанай.

### ШАРЛОТКА ЛЕТНЯЯ.

Яна гатуецца вельмі лёгка -- з чэрствага батона, чырвоных парэчак і маліны. Вымыйце ягады (прыкладна 1,5 шклянкі маліны і палова шклянкі парэчак). На дно глыбокай міскі пакладзіце падрыхтаваныя лустачкі белага хлеба (скарынку трэба абрэзаць). Таўшчыня лустачак 0,5 см. Імі трэба выкласці і бакі формы. Затым насыпаць ягаднае пачынне, разраўняць яго лыжкай, зверху пакласці лустачкі батона і прыціснуць грузам. Паставіць у лядоўню. Праз некаторы час, перавярнуўшы форму, вы атрымаеце шарлотку прыгожага малінавага колеру. Разрэжце яе на кавалкі і падавайце з халодным малаком.

### ВАРЭННЕ З КАБАЧКОЎ.

Калі вы яшчэ не знаёмыя з гэтым рэцэптам, настойліва рэкамендуем паспрабаваць. Не пашкадуеце! Гэта варэнне можна назваць ананасавым, апельсінавым, толькі не кабачковым...

У посудзе для варкі варэння развесці 1 кг цукру і паўшклянкі вады. Прыгатаваць сіроп і пакласці ў яго 1 кг кабачкоў -- ачышчаных ад кажуры і насення і нарэзаных на кубікі. Давесці да кіпення, дадаць 1 лімон, нарэзаны вельмі дробна (разам з кажурой) і варыць 45 хвілін. Захоўваць як і любое іншае варэнне.

## Выбіраем сабе сябра

*"Чем больше узнаю людей, тем больше нравятся собаки"*

Калі вы артыстычная натура, вам неабходны сябра, які здольны ацаніць вашы таленты. Гэты сябра -- пудзель. На думку адмыслоўца жывёльнага свету Альфрэда Брэма, менавіта пудзель здольны праявіць у патрэбны момант спачуванне, смяяцца, плакаць, суперажываць, як сапраўдны акцёр.

Калі вы адзінокія, наракаеце на здароўе і не здольныя на працяглыя прагулкі, завядзіце сабе японскага хіна, які выдатна абыходзіцца без прагулак на свежым паветры. Або мопса. Сабакі гэтай пароды заўсёды вясёлыя, энергічныя, рухавыя і ласкавыя да гаспадара.

Калі вы прыдбаеце шпіца, ведайце, што гэтыя сабакі вельмі чуйныя. Сваімі раптоўнымі, неспакойнымі паводзінамі яны папярэджваюць гаспадара не толькі пра навальніцу, але і пра нечаканага госця.

Калі вы захочаце мець надзейную ахову, то ірландскі тэр'ер з гонарам выканае гэтую місію. Ён не толькі будзе ахоўваць дом, але і знішчыць у ім усіх пацукоў, а з хатнімі жывёламі будзе жыць у міры і сяброўстве.

Калі ў вас у доме дзеці, а ваша праца звязана з раз'ездамі, ціхая і ласкавая коллі панаэірае за імі, зойме гульнямі. Нездарма яе стагоддзямі вучылі каравульнай службе. Нягледзячы на сваё англійскае паходжанне, коллі вельмі распаўсюджаная ў нас парода.

Ну а калі вам надакучылі чалавечыя падманы, здрады, няшчырасць, і вы хочаце знайсці адзіна вернага і адданага вам сябра, бярыце дварняжку. Больш вернага сябра, чым дварняжка, няма. Гэта праверана!



## Беражы мяне, мой талісман

У старажытнасці лічылася, што кожнаму чалавеку ў залежнасці ад месяца нараджэння адпавядае некалькі камянёў рознай вартасці.

**Жнівень.** Ужо адчуваецца подых восені. Пра яе нагадвае залаціста-жоўтым адценнем хрызаліт, сердалік і аванцюрын, чырванавата-белым --сардонікс.

**Верасень** -- халаднаваты месяц, і вось ужо камяні цямнеюць: цёмна-сіні сапфір, сіні лазурыт, ляпіслазур.

**Кастрычнік** аддае перавагу двум камяням -- турмаліну разнастайных адценняў і горна-белым апалам.

**Лістапад** хаця і пахмурны, але менавіта яго камень -- тапаз, што азначае "той, хто ўтрымлівае цяпло, агонь". Палаючыя вочы драпежніка нагадвае другі лістападаўскі камень -- "тигровый глаз".

**Снежань** заканчвае каляндар. Колеры яго камянёў нагадваюць снег у промнях заходзячага сонца: жаўтавата-зялёны і нябесна-блакітны цыркон і біруза. Дарэчы, гэтая назва палягае ад персідскага "фіруза" -- перамога. А якой жанчыне не хочацца атрымліваць іх бясконца?!

***Вас вучыць жыць у стылі "БМ" Бабуля Алена***

**Наша даведка**

# 53-19-24 -- ТЭЛЕФОН НАДЗЕІ

...Можна жыць за кратамі і чакаць выйсця на волю. Можна існаваць у невыносных умовах, спадзяючыся на перамены да лепшага. Можна быць смяротна хворым, але чакаць выздараўлення. Галоўнае -- не губляць надзеі, верыць у будучыню і рабіць дабро сёння...

"Вера ў Бога дае мне ўпэўненасць у заўтрашнім дні" -- гаворыць адміністрацыйны дырэктар асацыяцыі "Прамень надзеі" РУСЛАН КЛЮЧНІК.

Н а ш а  д а в е д к а. Беларуская рэспубліканская дабрачынная асацыяцыя "Прамень надзеі" была афіцыйна зарэгістравана ў 1990 годзе. Але яе праца пачалася значна раней. Дапамагалі малазабяспечаным яшчэ ў тыя гады, калі была забаронена ўсялякая місіянерская дзейнасць. Калі ж дзяржаўная палітыка ў адносінах да рэлігіі стала больш цярпімай, было вырашана стварыць міжканфесійную арганізацыю, якая б, не з'яўляючыся царквой, дапамагала людзям незалежна ад іх веравызнання ў духоўным і матэрыяльным жыцці.

Накірункі дзейнасці асацыяцыі "Прамень надзеі" самыя разнастайныя. Тут і матэрыяльная дапамога тым, хто мае патрэбу: у гэтай справе асацыяцыя падтрымлівае добрыя кантакты з замежнымі рэлігійнымі арганізацыямі, прымае і распаўсюджвае гуманітарныя грузы. Існуе дабрачынны пункт, дзе малазабяспечаныя людзі могуць бясплатна атрымаць адзенне. Супрацоўнікі асацыяцыі арганізуюць місіянерскія паездкі па Беларусі і нават у іншыя рэспублікі. Некалькі вернікаў на працягу месяца жылі ў рэспубліках Сярэдняй Азіі, дапамагалі ў арганізацыі новых цэркваў. Ізноў жа з дапамогай замежных партнёраў па Беларускім тэлебачанні быў паказаны вядомы мультыплікацыйны фільм "Суперкніга". Дарэчы, тады і ўзнікла ідэя стварэння тэлефоннага цэнтра.

X X X

**РУСЛАН:**--Падчас дэманстрацыі тэлевізійных хрысціянскіх перадач да нас прыходзіла шмат лістоў. Мы стараліся адказаць на кожны, даць неабходныя парады тым, хто мае ў іх патрэбу. Але ж пошта -- занадта марудны, а для многіх і дарагі сродак зносін, а дапамога, нават псіхалагічная падтрымка, можа спатрэбіцца вельмі тэрмінова. Таму з 11 чэрвеня гэтага года пры асацыяцыі "Прамень надзеі" пачаў працаваць тэлефонны кансультацыйны цэнтр. Мы даем кансультацыі па самых розных пытаннях рэлігіі, стараемся дапамагчы у вырашэнні жыццёвых праблем.

**КАР:**-- У гэтым ваша праца нагадвае так званы "тэлефон даверу"?

**РУСЛАН:**-- Так. Многія тэлефануюць таму, што ім патрэбна падтрымка, спачуванне. Напрыклад, у першы ж дзень нашай працы патэлефанаваў мужчына, сказаў, што ў яго хаце нядаўна здарыўся пажар, усё згарэла, а дзяржава выдзеліла яму толькі 20 000 рублёў дапамогі. Канешне, мы нічым не можам яму дапамагчы, але ж я думаю, што пасля размовы з намі ён атрымаў нейкую надзею. Званілі людзі, якія ўжо не аднойчы спрабавалі скончыць жыццё самагубствам, інваліды, прыкаваныя да ложку. Трэба, каб хтосьці іх выслухаў, паспачуваў. Часта звяртаюцца тыя, хто не можа з'арыентавацца ў мностве рэлігійных плыняў, якія існуюць зараз. Нашы супрацоўнікі стараюцца адказаць на ўсе пытанні, параіць адпаведную літаратуру.

**КАР**:-- Напэўна, тэлефануюць вам і тыя, хто адчуў патрэбу ў веры, ў яднанні з Богам. У якую царкву раіце вы звярнуцца такім людзям?

**РУСЛАН**:-- Гэта вельмі складанае пытанне. З'яўляючыся міжканфесійнай арганізацыяй, мы не можам прапагандаваць нейкую асобную царкву. З другога боку, мы лічым, што кожнаму чалавеку у залежнасці ад яго светапогляду, яго характару больш падыходзіць нейкі асобны тып царквы. Напрыклад, таму, хто шукае нечага узвышанага, духоўнага, лепш звярнуцца ў праваслаўную царкву з яе спевамі, прыгожымі абразамі. Ёсць людзі, якія не успрымаюць гэтага, якія адчуваюць Бога сваім сэрцам, розумам. Ім лепш бы пайсці ў царкву пратэстанцкую. Таму мы спачатку запрашаем чалавека на сустрэчу, і пасля грунтоўнай размовы раім звярнуцца ў тую ці іншую духоўную абшчыну.

**КАР:**-- І, калі ласка, для чытачоў "Беларускай маладзёжнай" каардынаты хрысціянскага тэлефоннага кансультацыйнага цэнтра.

**РУСЛАН**:-- Наш тэлефон 53-19-24. Працуем мы па суботах і нядзелях з 14 да 23 гадзін.

***Іван КОБЗІК, "БМ"***

